ЗВАНЫ ГОСЦЬ

## Валянцін АКУДОВІЧ:

# «За некалькі жнівеньскіх тыдняў беларусы перафарбавалі восень у бурапенную вясну»

*Беларускі пісьменнік, філосаф, літаратурны крытык і проста культавая асоба нашага часу **Валянцін АКУДОВІЧ**, які гадамі пазбягае прадстаўнікоў СМІ і рэдка каму дае інтэрв'ю, сёння адказвае на пытанні журналіста «Народнай Волі».*

**– Мне здавалася, вы не вельмі высока ацэньваеце сучаснага чалавека – ён далёкі ад Божай задумы. Ці змянілася ў апошні час ваша меркаванне? Пагадзіцеся, палітычны крызіс лета-восені 2020 года паказаў высокі градус грамадзянскасці і маралі...**

– Сучасны чалавек як планетарная асоба – гэта адно, другое – грамадзянін канкрэтнай краіны. Калі я цяпер думаю пра беларусаў, то сэрца поўніцца пяшчотай. За некалькі жнівеньскіх тыдняў беларусы перафарбавалі восень у бурапенную вясну. Гэта атрымалася як бы само сабой і да таго ж выглядала неверагодна прыгожа. А тут яшчэ мора бел-чырвона-белых сцягоў – самых прыўкрасных сцягоў у свеце…

Што і казаць, гэта быў цуд, хаця нельга не звярнуць увагу на сацыяльна-палітычны падтэкст. Беларускае грамадства ўжо даўно абагнала рэжым улады. Інфармацыйна, інтэлектуальна, эстэтычна… Падчас прэзідэнцкіх выбараў хлусня была настолькі відавочнай і гідкай, што сотні тысяч раней памяркоўных грамадзян не вытрывалі гэткай абразы і выйшлі з пратэстамі на вуліцы і плошчы як вялікіх гарадоў, так і невялічкіх райцэнтраў. І гэта быў самы важны вынік сталення нацыі.

Між іншым, я зусім не шкадую, што ў тым супраціўленні нам не ўдалося разбурыць сваю Бастылію: калі б народныя масы пайшлі на больш радыкальныя дзеянні, вялікае Паўстанне захлынулася б у крыві – і нашай, і нашых ворагаў. Станоўчым фактам з'яўляецца тое, што Паўстанне, выкліканае брутальнымі фальсіфікацыямі падчас галасавання на выбарчых участках, набыло бел-чырвона-белую афарбоўку. Гэта ці не самы багаты наш нацыянальны скарб, якім мы будзем ганарыцца і цешыцца праз стагоддзі!

**– А што вы можаце сказаць пра Святлану Ціханоўскую – такія персоны з'яўляюцца ў гісторыі выпадкова ці па волі Божай?**

– Зусім не ўпэўнены, што Бог уласнаручна блаславіў спадарыню Святлану, паклаўшы сваю пяшчотную «длань» на яе галоўку. Разам з тым нельга не заўважыць, што яе гісторыя фантастычная. Яна больш дзівосная, чым нейкая казка. Але паколькі я не містык, то мне нічога не застаецца, як толькі захапляцца гэтай маладой жанчынай. Найбольш уражвае яе шчырасць і адкрытасць. Яна кажа: я не палітык і не прагну ўлады, для мяне галоўнае – гэта правесці новыя, справядлівыя выбары і вызваліць з-за крат усіх палітзняволеных. Дзе і калі такое было ў палітычным свеце?!.

Гэта не рэвалюцыя, гэта драма шэкспіраўскага трагізму. І яна яшчэ будзе напісана для сцэны і пастаўлена ў вымытым ад бруду рэжыму Купалаўскім тэатры.

**– У неверагодных абставінах людзі становяцца сімваламі. Вось Раман Бандарэнка, два словы якога нашчадкі будуць узгадваць і праз пяцьдзясят, і праз сто гадоў…**

– Шаноўная Алена, вы хочаце схіліць мяне да думкі, што адвага Рамана – гэта ўздзеянне нейкіх звышнатуральных сіл? І таму адбылося забойства хлопца, інакш не атрымалася б сімвала?

Я не веру ў сілу крыві. Я хацеў бы бачыць Рамана і сёння жывым, дзейным, творчым. Працытую з гэтай нагоды геніяльную максіму Ігната Абдзіраловіча: «Творачы, зруйнуем». Давайце нішчыць змярцвелае, гідкае не зброяй і нянавісцю, а ствараючы новае, жывое, любімае…



**– А што вы думаеце пра неверагодна актыўны ўдзел жанчын у пратэстах? У вас ёсць тлумачэнне гэтаму гендарнаму ўсплёску?**

– Самым нечаканым у змаганні за ПРАЎДУ, за справядлівасць з'яўляецца тое, што яно сапраўды мае жаночы твар. Калі найбольш моцных прэтэндэнтаў на пост прэзідэнта (Бабарыку, Цапкалу, Ціханоўскага) рэжым без хоць якіх падстаў схаваў ад грамадства за кратамі, то беларускія жанчыны аб'ядналіся вакол Святланы Ціханоўскай, якая займела статус кандыдата ў прэзідэнты. «Тры грацыі» – чулася паўсюдна. Кожнай з іх хапала ўласнага харастваа, таму, гледзячы на іх, мала хто думаў, якія яны мужныя. А яны сапраўды былі неверагодна мужныя.

Што да пытання пра выбух гендарнай актыўнасці жанчын (і тут гаворка мусіць весціся не толькі пра ўжо названых), то калі б мужчыны заставаліся на свабодзе, то, магчыма, мы і не заўважылі б мужную прыгажосць жанчын у той меры, у якой яна сталася нам бачнай без іх. Гэта па-першае. А па-другое, яно і да лепшага. Цяпер не ў тэорыі, а наяве мы ўбачылі, што наша палітычная сістэма можа мець жаночы твар.

**– Але чаму пратэстныя акцыі як бы сціхлі? Што, рэвалюцыі абавязкова патрэбны ахвяры, а іх яшчэ недастаткова?**

– А вы хіба не заўважылі? Мы ўжо перамаглі! Беларусы ў абсалютнай сваёй большасці адвярнуліся ад нелегітымнага рэжыму, узненавідзелі тых, хто пайшоў на выкананне злачынных загадаў. Пра апошняе кажу са скрухай, бо нянавісць яшчэ нікога да дабра не давяла. А значыць, будзем мы пільнымі…

**– І ўсё ж праз нейкі час будзе абраны новы прэзідэнт. Грамадства сутыкнецца з многімі праблемамі і цяжкасцямі. І ці не пачуем мы «А вось пры Лукашэнку...»? Чаму стан задаволенасці людзей хутка праходзіць? Чаму не толькі дабро, але і зло забываецца? Хто-ніхто і цяпер з настальгіяй успамінае злыдня Сталіна…**

– У гэтага феномена ёсць мноства тлумачэнняў. Я абяру самае просценькае. Жыццё чалавека рэдка калі бывае залішне шчаслівым і радасным. Хутчэй зусім наадварот. І тады чалавек пачынае злавацца на сваю долю, шкадуючы, што яму не пашанцавала жыць у лепшыя часы, калі цяклі малочныя рэкі і былі кісельныя берагі.

Я не маю ні каліўца сумневу, што пасля сыходу з жыцця А.Лукашэнка некалі вернецца на радзіму ў ролі міфа. І гэта будзе міф пра народнага героя, які пабудаваў шчаслівую краіну, дзе простым людзям жылося багата ды шчасліва, толькі ворагі часам заміналі радасці беларусаў, аднак магутны вой не раз з імі спраўляўся, і таму нашы бацькі яго абагаўлялі.

**– Як вы думаеце, беларусы сапраўды аказваюць зараз уплыў на свет?**

– Не станем перабольшваць, мы ж сціплыя людзі. Пасля масавых восеньскіх акцый на нас сапраўды нейкі час шмат дзе здзіўлена глядзелі, абмяркоўвалі, пісалі, здымалі ў безлічы ролікаў і захапляліся. Толькі ўвага сучаснай цывілізацыі па сваёй прыродзе не можа доўга затрымлівацца на адной падзеі. Прынамсі, калі тая падзея не пандэмія. Гэта з аднаго боку. А з другога – наша Паўстанне, як новае паўстанне беларусаў, яшчэ толькі пачынаецца. Наперадзе ў нас вечнасць! Невыпадкова Ігнат Абдзіраловіч назваў сваю векапомную працу «Адвечным шляхам» (1921 год). І мы на свае вочы ўбачым, што ён не памыліўся ў сваёй празорлівасці, – бо рушым далей за далягляд.

**Алена МАЛОЧКА.**

ЭКОНОМИКА

# В деревообработку инвестируют еще миллиард долларов

*Часть денег выделят из бюджета – главным образом, на выплаты по долгам деревообрабатывающих предприятий. Основную сумму на модернизацию заводы получат за счет кредитов.*

В ближайшие годы в деревообрабатывающую отрасль планируют вложить 2,6 миллиарда рублей (порядка 1 миллиарда долларов) – это частные и государственные инвестиции, а также кредиты банков. Такая информация содержится в Государственной программе «Белорусский лес» на 2021–2025 годы.

Из республиканского бюджета напрямую финансируется несколько «бумажных» проектов модернизации на сумму 489,7 миллиона рублей (около 188 миллионов долларов). Это проект по запуску производства упаковочной бумаги на РУП «Завод газетной бумаги» в Шклове (филиал холдинга «Гомельобои») – стартовал в 2019 году. Производство картона на Добрушской бумажной фабрике «Герой труда» – стартовал в 2012 году, но застрял на полпути. Теперь государству приходится вливать сюда дополнительные финансы, чтобы модернизация завершилась. На Светлогорском ЦКК реализуется вторая очередь проекта по строительству целлюлозного завода – модернизация уже загнала предприятие в долги, расплачиваться по которым приходится государству.

Львиная доля бюджетных денег, выделенных на модернизацию деревообработки, уйдет именно на расчеты по долгам. 298,9 миллиона рублей в 2021–2022 годах направят на обслуживание внешних государственных займов и займов, привлеченных под гарантии правительства. И еще 171,8 миллиона – на возмещение части процентов.

Основной источник финансирования большинства проектов, заложенных в госпрограмму, – это кредитные ресурсы, их предприятия намерены взять на 1,8 миллиарда рублей в совокупности. Единственный завод, который модернизируется за счет собственных средств (небольшой проект на 2,7 миллиона рублей) – это «Ивацевичдрев».

Крупнейшим из перечисленных в госпрограмме проектов является создание производства упаковочных материалов на Светлогорском целлюлозно-картонном комбинате совместно с литовской компанией VMG, которая уже имеет свои деревообрабатывающие производства в Беларуси. В этот проект инвестируют порядка 460 миллионов долларов, в основном из кредитных источников. Если к этой сумме прибавить инвестиции во второй проект на Светлогорском ЦКК, получится, что модернизация комбината потребует около 590 миллионов долларов.

Значимые проекты также реализуются на «Заводе газетной бумаги» (на 29 миллионов долларов в совокупности) и на трех частных предприятиях: «Акитама», «Экман» и «Конкорт Эко» *(см. в конце таблицы)*. Все трое «частников» планируют создать производства пеллет к 4-му кварталу 2021 года.

Помимо этой троицы, остальные модернизируемые заводы – государственные, они входят в концерн «Беллесбумпром» либо переданы на оздоровление Банку развития. Большинство из них последние годы работают без прибыли – после завершения первой волны модернизации.

С 2016 года платежи организаций деревообработки по налогам являются отрицательными, то есть они берут деньги из бюджета, а не отчисляют в него. За этот период объем средств, которые были возвращены из бюджета организациям отрасли, составил 380 миллионов рублей.

| Организация | Инвестпроект | Стоимость, руб. |
|---|---|---|
| Завод газетной бумаги | модернизация производства бумаги-основы для декоративных облицовочных материалов со строительством буровых скважин, предназначенных для добычи подземных вод, | 9,9 млн (бюджетные деньги) |
| Завод газетной бумаги | модернизация БДМ №1 в целях перепрофилирования производства на выпуск бумаги упаковочной | 66 млн |
| Светлогорский ЦКК | строительство новой бумагоделательной машины (БДМ) по выпуску мешочной бумаги | 342 млн |
| Светлогорский ЦКК совместно ООО «ВМГ Индустри Групп» | производства лиственной полуцеллюлозы и установка/модернизация двух машин КДМ и БДМ | 1,2 млрд |
| Добрушская бумажная фабрика «Герой труда» | организация производства мелованных и немелованных видов картона | 9,1 млн (бюджетные деньги) |
| Слонимский картонно-бумажный завод «Альбертин» | установка новой КДМ для производства гильзового картона | 32,4 млн |
| ОАО «Зеленоборское» | строительство цеха по производству формованных изделий | 20 млн |
| «Ивацевичдрев» | Производство мебельной кромки АБС | 2,7 млн |
| «Ивацевичдрев» | производство мебельных деталей, облицовка мебельных деталей методом каширования | 8 млн |
| «Пинскдрев» | модернизация лесопильного производства | 6,9 млн |
| «Пинскдрев» | увеличение объема выпуска фанеры и ГДК | 38 млн |
| Новосверженский лесозавод | организация производства по крупному лесопилению и переработке отходов деревообработки | 8,6 млн |
| «Мостовдрев» | реконструкция лесопильно-деревообрабатывающего цеха и модернизация действующего производства МДФ | 60,6 млн |
| «Могилевдрев» | Увеличение мощностей сушильного хозяйства | 500 тыс. |
| Мозырский ДОК | модернизация лесопильного производства с организацией участка с устройством дополнительной линии брикетирования | 880 тыс. |
| ООО «БР – Вуд» | создание нового лесопильного и пеллетного производства, | 48,9 млн |
| «Витебскдрев» | модернизация линии обрезки МДФ | 2,8 млн |
| «Гомельдрев» | модернизация действующего производства МДФ и фанеры, организация производства пеллет | 42,7 млн |
| «Борисовдрев» | модернизация действующего производства МДФ и фанеры, организация производства топливных брикетов | 47,8 млн |
| «Речицадрев» | модернизация действующего производства ДСП и фанеры | 20,1 млн |
| «ФанДОК» | модернизация фанерного производства | 20,7 млн |
| «Акитама» | строительство завода по переработке низкотоварной древесины, выпуску древесно-топливных гранул (пеллет) и мелких древесных компонентов | 45 млн |
| «Экман» | строительство завода по переработке низкотоварной древесины и выпуску древесно-топливных гранул (пеллет) | 56 млн |
| «Конкорт Эко» | производство топливных гранул (пеллет) | 65 млн |
| | Обслуживание займов | 298,9 млн |
| | Возмещение процентов | 171,8 млн |
| | | Итого: 2,6 млрд |

**Анастасия ГУРИНА.**(ej.by)

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# Предпринимателей и фрилансеров поддержат материально

*Получить можно будет до 7500 евро.*

Чтобы поддержать своих граждан во время пандемии, правительство Германии приняло решение о выдаче единовременной помощи индивидуальным предпринимателям, которым пандемия принесла серьезные финансовые убытки. Помощь также получат семьи с детьми, малообеспеченные семьи.

Подать заявление на получение пособия можно на специальном сайте. Финансовая помощь предпринимателям и фрилансерам предназначена для лиц, чей бизнес действует в ограниченном режиме или полностью приостановлен в период с 1 января по 30 июня 2021 года.

Из заявления федерального министра экономики **Петера Альтмайера** стало известно о намерении правительства создать фонд помощи нуждающимся, предназначенный для компаний, которые на данный момент не входят в категорию получателей помощи. Министр экономики отметил, что в ближайшее время общественности станут известны детали того, кто еще имеет право на получение помощи, каким будет ее размер. Альтмайер заверил, что гарантированную помощь смогут получить и крупные компании, имеющие годовой оборот более чем 750 миллионов евро.

# Бесплатные тесты на COVID для всех

*Экспресс-тесты на коронавирус могут стать доступными для немцев уже с 1 марта.*



Об этом говорится в законопроекте федерального министра здравоохранения **Йенса Шпана**. Политик подал на рассмотрение Кабмина документ, касающийся пересмотра национальной стратегии тестирования.

Согласно новому плану, бесплатные экспресс-тесты на COVID-19 будут предлагаться всем жителям Германии не только в медицинских центрах, но и в кабинетах врачей, стоматологов и аптеках. А расходы на всё это покроет федеральное правительство.

*«Сейчас на рынке доступен гораздо более широкий ассортимент экспресс-тестов. Следовательно, все граждане должны иметь возможность проходить бесплатное тестирование у специально обученного персонала с помощью экспресс-тестов на антитела»*, – рассказал Шпан немецкой медиагруппе *Redaktions Netzwerk Deutschland*.

Сейчас портативные анализаторы используются в домах престарелых, в клиниках, а также в школах. Но пока тесты могут проводить только обученные специалисты. Планы министра предусматривают, что наборы для самодиагностики COVID-19 должны получить широкую доступность в Германии сразу же после одобрения Федеральным институтом лекарственных средств и медицинских устройств.

Сейчас Федеральное министерство здравоохранения уже ведет переговоры с рядом производителей, чтобы обеспечить достаточные поставки комплектов для тестирования на рынок Германии.

Правда, в отличие от экспресс-тестов сеты для домашнего тестирования не будут бесплатными. За право воспользоваться домашней системой для анализа нужно будет заплатить «небольшой личный взнос». В качестве рекомендованной стоимости Йенс Шпан назвал сумму в 1 евро.

# Электронные сигареты обложат налогом

Правительство Германии впервые введет налог на никотин в электронных сигаретах. Как пишет газета *Die Welt*, получившая доступ к законопроекту министра финансов **Олафа Шольца**, розничная цена на них может подскочить на 160 процентов.

До сих пор электронные сигареты не облагались в ФРГ традиционным табачным налогом. Но в немецком Минфине подсчитали, что новая пошлина принесет в бюджет дополнительно три миллиарда евро к 2025 году.

Сегодня флакон никотиносодержащей жидкости объемом 10 миллилитров стоит 5 евро. Уже на первом этапе налогообложения он подорожает на 4 евро. А на втором этапе цена вырастет еще на 8 евро. Правда, это произойдет не раньше 2024 года. На правительство уже обрушился шквал критики, причем не только со стороны производителей.

По мнению **Дастина Дальмана** из объединения «Жизнь без табака», при таком подходе уже скоро электронная сигарета станет гораздо дороже обычной. В этом случае многие покупатели наверняка откажутся от модного аксессуара. При этом они вовсе не избавятся от вредной привычки, а лишь перейдут в ряды обычных курильщиков.

# Министр иностранных дел с нетерпением ждет визита в парикмахерскую




Федеральный министр иностранных дел Германии *Хайко Маас* заявил: он рад, что парикмахерские откроют уже 1 марта. Все салоны и барбершопы в стране были закрыты из-за строгого карантина, введенного, чтобы сдержать распространение коронавируса.

*«После нескольких попыток постричься самостоятельно я очень рад, что парикмахерские могут открыться уже в марте»*, – заявил Хайко Маас.

Министр иностранных дел также добавил, что он думал о возвращении к работе других видов бизнеса, таких как спортивные залы и фитнес-студии.

*«Я надеюсь, что в скором времени они наконец тоже откроются»*, – отметил глава немецкого МИД.

Многие граждане Германии призывают к ускорению процесса выхода из локдауна. Но карантин отменят, когда достаточный процент жителей страны получит свою дозу вакцины от COVID-19. Ангела Меркель призвала к осторожному и постепенному ослаблению ограничений. К примеру, сначала откроют парикмахерские, через неделю придет очередь спортзалов и т.д. Такие предосторожности, по мнению канцлера, могут спасти от третьей волны пандемии коронавируса.

При этом посещение парикмахерских будет разрешено только по предварительной записи. На одного человека в зале должно приходиться 10 квадратных метров. Большинство мест для записи в немецких салонах на первую неделю марта уже заняты. Ажиотаж вокруг открытия парикмахерских может спровоцировать рост цен на их услуги.

# Агрессивных фанатов занесли в список

Число официально зарегистрированных в полиции агрессивно настроенных граждан, которые приходят на спортивные соревнования, снизилось почти до 8000. Все они представляют, по мнению властей, угрозу мирным гражданам во время проведения таких мероприятий.

Как говорится в сообщении Федерального министерства внутренних дел, в июле 2020 года «опасных» фанатов насчитывалось 8862 человека. В феврале этот показатель упал до 7841.

Игры без болельщиков и карантинные ограничения серьезно повлияли на количество зарегистрированных фанатов. В 2014 году их число достигало 13.000 человек.

Кто попал в запретительный список? Это 3300 жителей Германии, которые отличились во время спортивных мероприятий как участники массовых беспорядков.

Специальный список фанатов, которые временно не допускаются на стадионы или не имеют права пребывать на спортивных мероприятиях, создан в 1994 году. Этот список ведет Федеральное министерство внутренних дел. Записи в реестре автоматически удаляются спустя 5 лет. Если гражданин, внесенный в список, снова замечен в нарушении норм законодательства, в частности в совершении правонарушений во время массовых мероприятий, он остается в списке.

ИХ НРАВЫ




# «Сверхредкий» автомобиль за 8 миллионов евро на день рождения

*Звездный футболист **Криштиану Роналду** приобрел себе на день рождения «сверхредкий» спорткар Bugatti Centodieci стоимостью 8 миллионов евро, сообщает AS.*

По информации издания, этот автомобиль, который появится в автопарке нападающего Ювентуса в 2022 году, станет одной из 10 подобных моделей в мире.

Эта последняя модель Bugatti отличается большим 16-цилиндровым двигателем и может разгоняться от 0 до 100 км/ч за 2,4 секунды и от 0 до 200 км/ч за 6,1 секунды. Максимальная же скорость спорткара – 380 км/ч, что соизмеримо с нынешними болидами «Формулы-1», главной гоночной серии современного автоспорта.

Отмечается, что автомобиль Роналду все еще находится на стадии испытаний и в ближайшие недели пройдет тест в аэродинамической трубе, поскольку инженеры хотят убедиться, что он соответствует требованиям, ожидаемым при его стоимости.

У звездного футболиста уже есть другая модель этого же бренда спорткаров – Bugatti Chiron.

ТЕХНОЛОГИИ

# Компания Tesla вложила 1,5 миллиарда долларов в биткоины

*Это повысило курс криптовалюты до очередного исторического максимума.*

Американская компания Tesla вложила 1,5 миллиарда долларов в криптовалюту, купив на эти деньги биткоины. Об этом говорится в отчете Tesla, направленном в Комиссию по ценным бумагам и биржам США, пишет *The Verge*.

В Tesla также отметили, что компания в ближайшем будущем начнет принимать оплату в биткоинах – с таким призывом к главе Tesla **Илону Маску** недавно обратились клиенты компании. Сам Маск за последние недели опубликовал в своем микроблоге несколько записей о биткоине и других криптовалютах, и его твиты привели к значительному росту их стоимости.

Сообщение Tesla о крупном вложении в биткоины также отразилось на курсе криптовалюты. Биткоин резко подорожал с примерно 39,3 тысячи долларов за единицу до более чем 44 тысяч, что стало рекордом в истории криптовалюты. Чуть позже стоимость биткоина снизилась до примерно 43 тысяч долларов.

Напомним: по итогам 2020 года Tesla впервые в истории отчиталась о годовой прибыли. Выручка Tesla в 2020 году составила 31,5 миллиарда долларов, а прибыль – 721 миллион. На четвертый квартал пришлось 10,7 миллиарда долларов выручки и 270 миллионов прибыли. При этом стоит отметить, что в четвертом квартале компания получила 401 миллион долларов за счет продаж ZEV-кредитов другим автопроизводителям. Речь идет о средствах, которые компания получает от конкурентов, продающих машины с ДВС. Такие сделки позволяют автопроизводителям соответствовать требованиям некоторых штатов США и стран ЕС к экологичности машин.

Стремительный рост акций Tesla в прошлом году помог Илону Маску стать богатейшим человеком в мире, опередив основателя Amazon **Джеффа Безоса.** Сейчас состояние Маска оценивается в 203 миллиарда долларов, а состояние Безоса составляет 195 миллиардов.



Народная Воля http://www.nv-online.info
23 ЛЮТАГА 2021 г.

СЫНЫ АЙЧЫНЫ

# НАСТАЎНІК

Ён часта паўстае ў маёй памяці. Уладзімір Андрэевіч Калеснік, інтэлектуальна абаяльны чалавек, рэдкасна цэльная асоба, аўтарытэтны педагог-прафесар, чый гарманічны талент амаль 40 гадоў нёс нязменную вахту на кафедры беларускай літаратуры ў Брэсцкім педінстытуце (цяпер універсітэт), мой незабыўны інстытуцкі і літаратурны настаўнік. Крытык, класік нацыянальнага літаратуразнаўства, празаік, чые творы – эсэ, літаратурныя партрэты, эцюды, успаміны, прадмовы да выданняў – надзвычай цікавыя і карысныя як студэнту, так і навукоўцу, краязнаўцу, проста інтэлігентнаму чалавеку, прагнаму да пазнання і хараства.



Вядома ж, гэта быў шчодры дарунак лёсу – адчуць гарачае няўрымслівае сэрца выкладчыка, улюбёнага ў Беларусь, яе прыроду, народ, мову, наблізіцца да яго магутнага філасофска-філалагічнага поля, цудадзейнай эрудыцыі, інтэлекту.

Уладзімір Андрэевіч... Уладзімір Калеснік... Строгасць і лагода чуліся мне (яшчэ да сустрэчы і знаёмства з ім) у гукапісе імя і прозвішча, нетаропкасць і разважнасць – у іх рытмічнай мелодыцы. А прозвішча падказвала, што род ягоны пайшоў ад майстравітага вяскоўца... І калі цёплаю вераснёўскаю раніцай (ішоў 1959 год) перад намі, шчаслівымі першакурснікамі, з'явілася ладная і самавітая постаць выкладчыка ў светлым касцюме, у чыстай выпрасаванай кашулі, каўнер якой быў аптымістычна-разняволена і акуратна выкладзены на пінжак, у мяне ў грудзях пагарачэла: гэта – ЁН! Мы ўсе ведалі: Калеснік будзе нашым куратарам, што азначае ў перакладзе з лацінскай мовы – апекуном.

Пачалося знаёмства. Уладзімір Андрэевіч кожнага з нас распытваў, адкуль родам, з якой сям'і, чаму абралі педагагічную сцяжыну. Быў ён дужа ўважлівы, карыя пранікнёныя вочы, здавалася, бачылі ўсё, што ў тваім сэрцы, голас гучаў прыцішана ва ўнісон з цішынёю ў аўдыторыі і адметна-меладычна, як бы апраўдваючы рытміку імя і прозвішча. Ва ўдумлівым настаўніку адчувалася вялікая інтэлектуальная прастора, духоўная вышыня, запас трываласці. Першыя ўражанні не падманулі. Тое, чым была прасякнута яго педагагічная дзейнасць і чым магічна ён уздзейнічаў на моладзь, называлася нацыянальнай ідэяй; ён з'яўляўся яе непахісным носьбітам і самааддданым праваднікам. Дасканала ім прамаўляліся лекцыі і праводзіліся заняткі па старажытнай беларускай літаратуры, фальклоры, гісторыі эстэтычных вучэнняў і нарматыўнай эстэтыцы.

Але асветнік-гуманіст абуджаў у нас пачуццё годнасці, любоў да літаратурна-мастацкай спадчыны Бацькаўшчыны, да яе мудрых і мужных сыноў і дачок, дэманстраваў сваю грамадзянскую пазіцыю і свой здаровы эстэтычны густ, не толькі чытаючы названыя курсы, – ён усяго гэтага бліскуча дасягаў і на занятках па выразным чытанні. Была добрая дэмакратычная завядзёнка: нам даваліся заданні выбіраць самастойна і завучваць упадабаныя вершы. Ды ў паэзіі мы арыентаваліся слабавата. Яна пасля развянчання культу Сталіна набывала зусім іншы, якасна новы характар, а студэнты натраплялі ў старых выданнях на творы ідэйна прычасаныя, гладкія, нізкапробныя. Выкладчык ім ацэнкі даваў адпаведныя: «Тарабаршчына! Безгустоўшчына!» Знянацку пачуць такое – што зняць тону гразі з душы. Нарэшце ў ход пайшлі шэдэўры Багдановіча, класічныя творы Коласа і Купалы, вершы нашых сучаснікаў – Караткевіча, Вярцінскага, Барадуліна... Настойліва і эфектыўна Уладзімір Андрэевіч дамагаўся ад будучых педагогаў выразнага вымаўлення. Заўвагі ягоныя былі дасціпныя, звычайна калючыя і заўсёды вобразныя. Студэнту Ц., паслухаўшы яго надта ціхае і запаволенае, няўпэўненае дэкламаванне, ён казаў: «Ну што ты воз, поўны сена, цягнеш па калдобінах!..» А студэнту Н., калі той моцна біў сябе ў грудзі вершаванымі словамі «Советская Отчизна, родная наша мать...», заўвага адрасавалася сціслая і абсалютна зразумелая: «На паўтону ніжэй!» На занятках па выразным чытанні мы пачулі пра такія смешныя недахопы ў вымаўленні, як «поўны рот кашы», «гундосіць, як панамар» ды іншыя. Педагог высокага прафесійнага рангу добра ведаў красу мастацкага слова, не прамямленага, а прамоўленага хораша, з пачуццём меры. Але галоўны яго клопат быў пра нацыянальную свядомасць будучых педагогаў і педагагінь (іх, дарэчы, у групе была абсалютная бальшыня). Аднойчы на чарговых занятках высветлілася: мала хто ведае пра паэта Валянціна Таўлая. І куратар звярнуўся да дзяўчат: *«О, галубіцы іарданскія, калі б такога паэта займелі грузіны, альбо ўзбекі, альбо яўрэі, як бы яны яго шанавалі!..»* Абуджаліся юныя душы ад сну, спакваля фарміравалася ў іх беларуская свядомасць – прысутнасць Калесніка азначала ўплыў. Нездарма за ім і за літаратарамі, якіх кожны тыдзень ён склікаў у рэдакцыі абласной газеты для чытання і абмеркавання новых твораў, сачылі надта пільныя органы, падсылалі на пасяджэнні літаб'яднання завербаванага «шпіка» ў ролі паэта-пачаткоўца...

Уладзімір Калеснік нястомна сілкаваў душы людзей, уздымаў іх, як сонца ўздымае ўсё жывое, даваў магчымасць адрываць вочы ад штодзённых клопатаў і пераносіцца ў высокі свет духоўнасці, мудрасці, хараства. І да студэнтаў, і да маладых і пачынаючых пісьменнікаў на сустрэчу запрашаў са сталіцы знакамітых творцаў: Васіля Быкава, Янку Брыля, Максіма Танка, Уладзіміра Караткевіча ды іншых, – ладзіў дыспуты па іх новых творах.

Яго заклапочанасці і дабрыні не было мяжы. Не магу абмінуць вядомы ў колах творчай інтэлігенцыі факт: калі Алесь Разанаў за збор подпісаў у абарону роднай мовы быў выключаны з Белдзяржуніверсітэта, ён паратунак знайшоў у Брэсце, а менавіта – у КАЛЕСНІКА, з чыёй думкай лічылася ўплывовае начальства. Дзякуючы Уладзіміру Андрэевічу Алесь прадоўжыў вучобу ў Брэсце. Як ён сам кажа: *«Літаральна на наступны дзень я ўжо меў месца ў студэнцкім інтэрнаце, а яшчэ праз нейкі час, пэўна, пасля ўзаемаўзгаднення інстанцый, – і ў самім інстытуце».* Любіў куратар сваіх студэнтаў, клапаціўся, каб мы зараблялі стыпендыі, і неяк па-бацькоўску аберагаў нас.

Калі я быў апынуўся ў абласной больніцы, на другі ж дзень мой аднагрупнік Сяржа Сайко прынёс ад Уладзіміра Андрэевіча крыху грошай, каб я мог у буфеце што-небудзь прыкупляць. Забягаючы наперад, скажу і пра такі факт: аднойчы, будучы ўжо жыхаром сталіцы (было гэта ў 1991 годзе), я нечакана сустрэў у цэнтры горада Уладзіміра Калесніка і пасля нашай цёплай кароткай гамонкі сказаў, што еду праведаць Міхася Рудкоўскага ў шпіталь, дзе ён ляжаў пасля анкалагічнай аперацыі. Уладзімір Андрэевіч даў мне 25 рублёў – на каларыйныя прадукты Міхасю. Я накупляў за тыя грошы розных прысмакаў, у тым ліку і чорнай ікры, і завёз нашаму сябру. Ён быў у цяжкім стане, але высакароднасць Калесніка яго парадавала і падбадзёрыла... Можна прыводзіць безліч прыкладаў, якія сведчаць пра неад'емную рысу характару Калесніка – чалавекалюбства.

Я развітваўся з Берасцем у 1972 годзе. На развітальным вечары, які адбыўся па ініцыятыве Уладзіміра Андрэевіча і сябрыны найбольш актыўных тады літаратараў, ён, кіраўнік літаб'яднання, адчуўшы маё хваляванне, калі наблізіўся час ад'езду, падышоў да мяне, абняў за плячо і пастараўся лагодна-жартаўлівым голасам супакоіць: *«Ну, што ты, не хвалюйся. Будзеш у Мінску тузом, а мы будзем прыязджаць да цябе...»*

У сталіцы ўтварылася выдавецтва «Мастацкая літаратура», куды я (пасля пасады літкансультанта ў «Знамени юности») быў прыняты М.Г.Ткачовым у аддзел, якім кіравала А.С.Васілевіч. З Берасцейшчынай сувязі не парываліся. Ездзіў на радзіму, праведваў берасцейскіх літаратараў і ў Мінску сустракаў паэтаў-землякоў. Лісталіся. Уладзіміра Андрэевіча стараўся залішне не турбаваць, але раз-два на год пасылаў лісток ці паштоўку разам з новымі вершамі. Ад яго атрымліваў лісты, поўныя ўвагі і цеплыні. Не ведаю, дзе бралася цярпенне, каб дэталёва разглядаць кожны верш. Лепшае з дасланага ён друкаваў у абласной «Зары». Са мной настаўнік дзяліўся сваімі клопатамі, планамі. Радкі з ліста (20 снежня 1973 года): *«Выслаў я нарэшце рукапіс кніжкі артыкулаў, набралася 470 стар. машынкі, прыкладна трэцяя частка гэтага матэрыялу – яшчэ сырэц. Над ім думаю працаваць, пачынаючы з другой палавіны студзеня і аж да завяршэння справы. Цяпер сяджу над раздзелам да нашай агульнай кнігі* (гаворка – пра кнігу «Я з вогненнай вёскі...». – **В.Ж.**). *Трэба яшчэ будзе парабіць здымкі. Работы – процьма, а з сіл ужо выбіўся. Дажыць бы да Новага года, а там, можа, лягчэй пойдуць справы».*

Перарываю таропкія радкі ліста, якія мне нагадалі лінію высокага напружання, каб звярнуць увагу чытача: у лісце гаворыць творца, але маўчыць выкладчык навучальнай установы, дзе яму штодня быў забяспечаны фронт асноўных абавязкаў. Тут была перадавая, дзе ішло змаганне за годнасць новых і новых пакаленняў настаўнікаў. Пры гэтым прывычна цягнуўся воз грамадскіх нагрузак, такіх як кіраванне літаб'яднаннем Берасцейшчыны. Далейшыя радкі з ліста акурат і выяўляюць яго жывую заклапочанасць лёсамі літаратараў. Найперш – горкай долечкай Ніны Мацяш (пасля катастрофы, у якой загінула яе сястра Люба, яна, пакалечаная, трапіла ў шпіталь у Бярозе): *«Ніна папраўляецца, але канчатковае выздараўленне яшчэ не скора, праляжыць некалькі месяцаў. Цяпер, натуральна, яна сябе вельмі блага адчувае маральна, хочацца нейкіх звестак са знешняга свету, ад людзей. І не ведаю, як туды выбрацца, столькі тут работы. Трэба напісаць хоць ліста, як казаў нябожчык Засім».* Далей – пра новую аповесць С.Курылёвай, а яшчэ – добры водгук на публікацыю маіх і М.Рудкоўскага вершаў у «Полымі». А ў канцы: *«Прывет усім сябрам і знаёмым, а тваёй шэфіні і Палтаран – персанальна».* Ён заўсёды быў гатовы сустракацца, сябраваць сем'ямі, пра што красамоўна сведчаць такія канцоўкі лістоў: *«Прывітанне тваёй гаспадыні. Будзеце ў Брэсце – заходзьце як дахаты»*; *«Рады будзем бачыць Цябе і Тваіх у нашай хаце»*; *«Бывай, не забывай, заходзь...»* І асобна, і разам з жонкаю, і з сябрамі заходзіў у яго гасцінную кватэру. Пабываў мой Настаўнік і ў мяне – разам з Алесем Каско і Уладзімірам Ягоўдзікам: дарагія мне пісьменнікі віншавалі мяне з першым юбілеем.

Уладзімір Калеснік да апошніх дзён сваіх заставаўся па-грамадзянску актыўнай асобай. Як змагар за нацыянальнае адраджэнне Беларусі ён не мог не радавацца дэмакратызацыі і яе вынікам (хоць бы адменай цэнзуры, ідэалагічнага нагляду). У той жа час абурала дэградацыя высокіх кіраўнікоў, партыйных функцыянераў. Яго не пакідала мудрая разважлівасць. Напачатку складаных дзевяностых з'явілася яго смелае выказванне пра выбары: *«Не камуністаў, не дэмакратаў трэба выбіраць, а свядомых, тых, хто за Беларусь».*

Пры ўдумліва-крытычным паглядзе на рэчаіснасць яму, нястомнаму духоўнаму лідару, карцела бачыць станоўчае і нават нешта ідэальнае ў суайчынніках, у сем'ях, найперш – у сваіх былых вучнях. І ён знаходзіў элемент ідэальнага, словам педагога падтрымліваў і заахвочваў яго. У адным з віншавальных лістоў на мой адрас ён заўважыў: *«Прыемна ўспамінаюць студэнты сустрэчу з Табою, Твае вершы і запаветы. Я рады, што Табе ўдалося не толькі захаваць творчы плацдарм у сталіцы, але стварыць у сваёй хаце культ беларускага слова, звычаю, духоўнай культуры... Шчасця Тваёй хаце. Ул.Калеснік».* Над усім тэкстам датаванне: *«31.12.1987, Брэст».*

Шаную памяць, берагу лісты і кнігі з аўтографамі непараўнальнага Настаўніка. У аўтографах нямала завышаных эпітэтаў, азначэнняў. А на тытульнай старонцы «Зорнага спеву» – так коратка, светла і ахоўна: *«Васілю Жуковічу – паэту ў жыцці і ў слове. Будзь сабою!»*

Уладзімір Калеснік плённа працаваў у літаратуры. Яго творчасць клікала і кліча сёння ў свет мудрасці і хараства прадвесніка беларускага Рэнесансу Францішка Скарыны і легендарнага аўтара «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага, у свет паэта-змагара, *«духоўнага важака народа, вартавога спадчыны»* Янкі Купалы, казачніка Рэдкага, іскрыстай і ўдумлівай прозы Янкі Брыля, у свет паэзіі рамантычнага Уладзіміра Жылкі, вольналюбівага Уладзіміра Караткевіча, ворага ўсякай артадоксіі, усякай руціны, у свет цудоўнай, разнастайнай паэзіі Ніны Мацяш, Міхася Рудкоўскага, Алеся Разанава, Алеся Каско...

Валодаючы вялікім дарам мастака-мысляра, ён быў тытанічна працаздольны. Так, перш чым стварыць духоўную постаць Францішка Скарыны, ён прачытаў усю Біблію.

Некалькі апошніх гадоў пісьменнік цяжка хварэў, але працаваў над галоўнай кнігай свайго жыцця – «Доўг памяці». Яна – яркая і праўдзівая. Скажам, яе галоўны герой паўстае супраць групы дэсантнікаў, якія разлагаліся маральна і былі на мяжы злачынства, адкрыта выступае з суровай крытыкай подлага кар'ерыста камбрыга Ключко. У кнізе У.А.Калеснік пашанотна сплачвае доўг бацькам, сваім настаўнікам, сялянам-працаўнікам, каханай дзяўчыне, юнакам і дзяўчатам, якія ў пекле вайны баранілі Бацькаўшчыну і гінулі за яе.

Уладзімір Андрэевіч да апошняга дня заставаўся Чалавекам з вялікай літары, вельмі ўважлівым да блізкіх, чулым, чалавечным. Як успамінала яго ўдава Зося Міхайлаўна, *«жыццё з ім было цікавым і насычаным, да таго ж ён быў вельмі апякунчы».* Яна *«за яго плячыма адчувала сябе бяспечнай і шчаслівай».* Ужо і безнадзейна хворы, ён хваляваўся за жонку, пытаўся: *«Зося, як ты будзеш жыць адна?»* Яшчэ распавядала яна пра яго развітальна-суцяшальную запіску, знойдзеную сярод занатовак, зробленых на шпітальным ложку: *«Мілая Зося! Дажывай спакойна. Я люблю Цябе. І буду любіць, трапіўшы ў пекла, буду радавацца, што Ты недзе ў раі, па заслугах, і няма Табе роўных».* Што чулася з вуснаў Зосі Міхайлаўны, з добрым хваляваннем прачыталася ў яе ўспамінах. Да вышэйсказанага хораша дапасуецца яе сказ, узяты быццам з фіналу лірычнага рамана: *«Я яго вельмі кахала, і, думаю, ён мяне таксама, таму, можа, добры Бог дазволіць нам сустрэцца ў лепшым свеце і быць назаўсёды разам».*

**Васіль ЖУКОВІЧ, член Саюза беларускіх пісьменнікаў.**

НОВЫ ФАРМАТ

## Пра што Ціханоўская і Латушка гаварылі з 1300 прыхільнікамі ў самай закрытай сацыяльнай сетцы




Беларускія палітыкі шукаюць новыя шляхі для данясення сваіх думак і ідэй да людзей. Хтосьці праводзіць шосты Усебеларускі народны сход, а хтосьці рэгіструецца ў звышпапулярнай апошнім часам сацыяльнай сетцы ClubHouse.

Паслухаць, паспрачацца, выказаць свае меркаванні ў размове са **Святланай Ціханоўскай**, **Паўлам Латушкам** і **Франкам Вячоркам** пазаўчора сабралася больш за тысячу чалавек. Гэта новы фармат: ты можаш наўпрост задаць хвалюючае пытанне палітыкам альбо выказаць сваё меркаванне аб тым, што трэба рабіць далей.

Дадзеная сустрэча была першай; калі фармат палічаць паспяховым, то яны працягнуцца далей. Тэма гэтага «спаткання» – «Беларусь пасля Лукашэнкі».

*«Беларусь будучыні для мяне – гэта новыя дэмакратычныя выбары. Пасля выбараў – прыняцце новай Канстытуцыі. Пабудова парламенцка-прэзідэнцкай рэспублікі. Паўнамоцтвы парламента і прэзідэнта будуць прапісаны так, каб выключыць магчымасць узурпацыі ўлады.*

*У эканоміцы – актыўная рынкавая эканоміка. Часткова прыватызацыя, стварэнне новых галін эканомікі, добрыя ўмовы для прыходу інвестараў. Усе пацярпелыя цягам палітычных рэпрэсій будуць апраўданы і атрымаюць кампенсацыю»,* – сказаў кіраўнік НАУ **Павел Латушка**.

*«Для мяне самае галоўнае – гэта бяспека. Павел Латушка гаварыў пра ідэальную Беларусь, і шмат у каго можа скласціся меркаванне: калі мы пераможам, то ўсе адразу стане прыўкрасна. Але ж мы разумеем, што гэта не так. Мы павінны разумець, што гэта доўгі працэс, вельмі шмат работы»,* – адрэагавала на гэта **Святлана Ціханоўская**. Яна задала пытанне: з якімі галоўнымі праблемамі мы сутыкнёмся пасля выбараў?

Блогер **Антон Матолька** адказаў так: *«Галоўная праблема – гэта судовая сістэма, адсутнасць у Беларусі незалежных судоў. Калі такая сістэма з'явіцца, то астатняе вырашаць будзе нашмат прасцей».*

Слухач з Каліфорніі сказаў, што гатовы выходзіць на пратэсты, і пытаўся, што рабіць, калі ўлада не пойдзе на перамовы. *«Мы будзем імкнуцца да перамоў, але ідэальнай сітуацыі дасягнуць будзе цяжка. Калі ўлада не пойдзе на перамовы, то ў грамадства ёсць права на самаабарону і рэагаванне іншымі законнымі метадамі на бясчынства ўлад»,* – адказаў Латушка.

Нехта **«Алекс»** прапанаваў Святлане Ціханоўскай свае паслугі ў якасці міжнароднага памочніка: *«У мяне гэта атрымаецца лепш, чым у Франка».* Потым людзі зразумелі, што гэта быў пранкер **«Лексус»**, які проста спрабаваў «развесці» прысутных.

*«Дамаўляцца патрэбна з усімі,* – адказала Ціханоўская на пытанне пра магчымыя перамовы з Расіяй. – *Мы адкрыты да дыялогу, калі ў нас будуць кантакты з афіцыйнай Расіяй, то адразу раскажам».*

*«Вельмі цяжка перамагчы без пераходу сілавікоў на наш бок»,* – зазначыла Ціханоўская, калі гаворка пайшла пра рэформу МУС.

Гаворка таксама ішла пра IT-сектар, пра культуру. Абмеркаванне працягнулася нават пасля таго, як з «пакоя» выйшлі ўсе палітыкі.

ХОЧУ СООБЩИТЬ...

## Светлана Тихановская назначила Александра Шлыка специальным представителем по выборам

Александр Шлык – эксперт по выборам. Последние 10 лет он работал в отделе по выборам БДИПЧ ОБСЕ, с 2006 года был его главой. В этом качестве руководил наблюдением за всеми выборами в регионе ОБСЕ. Помогал странам приводить их избирательные процессы в соответствие с международными стандартами.

Закончил экономический факультет БГУ, магистратуру по политологии Центрально-Европейского университета (Венгрия), магистратуру по международному развитию и управлению Лундского университета (Швеция).



В качестве представителя по выборам Шлык будет руководить подготовкой законодательной и практической базы для проведения демократических выборов, организовывать общественные консультации подходов к избирательной реформе, координировать работу с международными партнерами и экспертами в сфере выборов.

Александр Шлык: *«События с 9 августа 2020 года показали, что граждане Беларуси хотят честных и прозрачных выборов и не готовы мириться с фальсификациями. Мы будем работать над тем, чтобы демократические выборы были основаны на четких и справедливых правилах, стали понятной и близкой всем целью, а после мирных преобразований – реальностью в новой Беларуси».*

Связаться с Александром можно по почте: ***elections@tsikhanouskaya.org***

**Анна КРАСУЛИНА, пресс-секретарь Светланы Тихановской.**

